*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 2 (266) | 10 студзеня 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПАЧАЛА СВАЮ ПРАЦУ ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 13 СКЛІКАННЯ.**

○ ***У СУВЯЗІ З ІНАЎГУРАЦЫЯЙ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА АЛЯКСАНДРА КВАСЬНЕЎСКАГА*** *кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка накіраваў яму тэлеграму, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Спадзяюся, што традыцыйна добрасуседскія і дружалюбныя адносіны нашых дзяржаў, плённыя іх кантакты па розных напрамках двухбаковага супрацоўніцтва будуць садзейнічаць паляпшэнню дабрабыту польскага і беларускага народаў, умацаванню міру ў Еўропе і ва ўсім свеце».*

○ **«АСНОВАЙ ЗАКОНАТВОРЧАЙ РАБОТЫ НОВАГА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПАВІННЫ СТАЦЬ НАМАГАННІ ДЭПУТАЦКАГА КОРПУСА ПА РЭФАРМАВАННІ ГРАМАДСТВА»** — так лічыць дэпутат парламента, старшыня суда з Ваўкавыска Васіль Скок. Да ўсяго ён перакананы, што для таго, каб перавесці беларускую эканоміку на рынача ныя адносіны, трэба гэтаму Вярхоўнаму Савету праводзіць цвёрдую палітыку па ўмацаванні суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Хочацца верыць, што так думаюць у нашым новым Вярхоўным Савеце большасць дэпутатаў.

○ ***АБ'ЁМ ТАВАРНАЙ ПРАДУКЦЫІ ЗА 11 МЕСЯЦАЎ МІНУЛАГА ГОДА*** *— 70557 млн. рублёў, што склала да ўзроўню 1994 года 100,9 працэнта, аб'ём рэалізацыі — 64516 млн. рублёў. Выпушчана тэхналагічнага абсталявання — 11816 адзінак. У сувязі з паніжэннем пакупніцкага попыту знізіўся аб'ём выпуску тавараў народнага спажывання.*

○ **НАПРЫКАНЦЫ МІНУЛАГА ГОДА Ў ГАЗЕТНЫХ ШАПІКАХ І Ў ГРАМАДСКІХ РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІКАЎ ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ВЫДАННЕ ПАД НАЗВАЙ «ПИКНИК».** Яшчэ адна расійскамоўная газета! На жаль, яе шэф-рэдактарам з'яўляецца чалавек, які добра валодае беларускай мовай.

○ ***СПОЎНІЛАСЯ 20 ГАДОЎ*** *узорнаму драматычнаму тэатру Палаца культуры і тэхнікі Менскага аўтамабільнага завода. З гэтай нагоды ў тэатры адбыўся ўрачысты вечар.*

○ **СТВОРАНА І ЗАРЭГІСТРАВАНА Ў МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ НАШАЙ КРАІНЫ** аддзяленне міжнароднай асацыяцыі «Саюз дызайнераў». Асноўная мэта новай арганізацыі — развіццё творчай дзейнасці беларускіх дызайнераў, кансалідацыя творчых магчымасцяў сяброў Саюза дызайнераў у справе развіцця дызайну на міжнародным узроўні. Старшынёй праўлення АМА «Саюза дызайнераў» абраны Анатоль Цехановіч.

○ ***ПА РАСПАРАДЖЭННЮ КІРАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ МІХАІЛА МЯСНІКОВІЧА З 25 СНЕЖНЯ 1995 ГОДА ПА 1 ТРАЎНЯ ГЭТАГА ПРАВОДЗІЦЦА КОНКУРС*** *на лепшы тлумачальны тэкст да Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга нашай краіны, якія ў свой час былі прапанаваны ў якасці дзяржаўных самім Прэзідэнтам. Для пераможцаў конкурсу ўстанаўліваюцца дзве першыя прэміі — у памеры 50 мінімальных заробкаў кожная і дзве другія — у памеры 30 мінімальных заробкаў кожная. Будуць чатыры пераможцы, а значыць, калі тэксты будуць напісаны рознымі людзьмі, то яны, гэтыя тэксты будуць розныя і, значыць, у нас будзе адобрана чатыры віды Дзяржаўных гербаў і Дзяржаўных сцягоў, хаця колеры сімвалаў застануцца нязменнымі. Цікавы конкурс!*

# *На Калядах у народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава*



Напярэдадні Новага года да Васіля Уладзіміравіча і яго жонкі Ірыны Міхайлаўны завіталі ветэраны-дэмакраты са святочнымі віншаваннямі і пажаданнямі. Адбыліся вясёлыя калядкі з пірагамі, абрадавымі песнямі і жартамі. Адбылася таксама зацікаўленая гаворка на палітычныя тэмы — куды ж ад гэтага падзецца! Гаварылі пра партыі і рухі і, вядома ж, пра БНФ. Сённяшняе становішча БНФ «Адраджэньне» В.Быкаў ахарактарызаваў, як нармальнае ў дадзенай сітуацыі. Невялікі адсеў у арганізацыі адбыўся, але асноўныя сілы засталіся, чым не можа пахваліцца ніводная іншая партыя. І гэта, канешне, выдатна. Добра і тое, што ў той час, як, на думку Васіля Уладзіміравіча, амаль усе іншыя партыі створаны спецслужбамі і ўладамі, БНФ гэтага пазбегнуў. Усё-такі яго мы стварылі самі, гаворыць пісьменнік, стварылі знізу, і з-за гэтага паляцела ўсё кіраўніцтва тагачаснай кампартыі Беларусі — за тое, што яно «прашляпіла» ўтварэнне Фронту. Вядома, хацелася б, каб БНФ перамагаў на выбарах, адзначыў далей гаспадар вечарыны, аднак, на жаль, у такіх умовах нацыянальна-дэмакратычная арганізацыя перамагчы не можа. Гэта немагчыма, таму што выбары праводзяцца пад эгідай улад, якія шчыруюць і ў выбарчых камісіях, і ў спецслужбах яшчэ задоўга да саміх выбараў. Няхай усе 100% прагаласуюць за Пазьняка ў Смаргоні, усё роўна акажацца, што не хапае дваццаці або нават пяці галасоў...

Нельга наракаць ні на палітыку, ні на тактыку, ні на кандыдатаў БНФ, лічыць Васіль Быкаў, яны ўсе ні пры чым. Выбары праводзіў Прэзідэнт. І ён паставіў задачу: з БНФ ніводнага чалавека!..

Пабудаваць такімі метадамі правапарадак, лад жыцця немагчыма — нават зладзіць больш-менш эканоміку, каб народ накарміць, сказаў Васіль Быкаў. Пагэтаму, рана ці позна, усё гэта рухне. Дык вось: тады ўспомніць той жа электарат выбаршчыкаў, гэты самы народ наш дэнацыяналізаваны пра БНФ. Але ўся справа ў тым, што эканоміка можа аказацца ў такім становішчы, бядотным і гаротным, што і БНФ нічога не зможа з ёю зрабіць. Ужо знешні доўг Беларусі складае 2 мільярды долараў. Унутраны ж складае каля 3-х мільярдаў. Супрацоўнікі амерыканскага інстытута Адама Сміта, якія вывучалі нашу эканоміку, зрабілі заключэнне, што Беларусь праядае будучыню наступных пакаленняў. Гэта значыць, занепакоена кажа народны пісьменнік, што ёсць на нашых сталах — у нашых унукаў ужо не будзе. А мы ўсё яшчэ дамагаемся крэдытаў, якія таксама пойдуць на праяданне...

Якое ж выйсце? Ці трэба вынаходзіць нейкія хітравумныя выхады? Не, перакананы Васіль Быкаў, трэба проста паглядзець, як ідуць справы ў нашых суседзяў-украінцаў, я не кажу ўжо пра Прыбалтыку або Польшчу. І пайсці па гэтым шляху. Браць тое, што патрэбна, што дае выйгрыш нейкі ў суседзяў, і, наадварот, пазбягаць памылак, каторых яны не пазбеглі. Гэта заўсёды выйгрыш таго, хто ідзе ззаду. І гэта ў нас не робіцца.

Памятаеце, як адбываліся прэзідэнцкія выбары? — звяртаецца да гасцей Васіль Быкаў. Колькі тады дзён і начэй БНФ і Пазьняк не спалі, выпрацоўвалі выбарчую праграму. У той час як супернік выйшаў без усялякай праграмы, з адным лозунгам «Далоў карупцыянераў!» І перамог. І цяпер у яго нічога няма. Метадам імправізацыі ён хоча нечага дасягнуць...

Закранаючы палітычную сітуацыю ў Расіі, Васіль Быкаў адзначыў, што да ўлады могуць прыйсці камуністы, а паколькі вядома, што такое камуністычная ідэалогія і практыка, то можна прадказаць і іх наступствы. Могуць прыйсці да ўлады і авантурныя сілы, якія называюць сябе прагматыкамі, а ў саміх грымучая сумесь чырвонага з карычневым. У нас перамог іменна такі варыянт — чырвона-карычневы.

**Ірына КРЭНЬ.**



**На здымках У.Кармілкіна: Васіль Быкаў; Васіль Уладзіміравіч** (у цэнтры) **і Ірына Міхайлаўна** (першая злева) сярод ветэранаў.





На Каляды ва ўправе БНФ «Адраджэньне». Дзяцей забаўляе артыстка Людміла Вольская.

**Фотаздымкі Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**


***АСТРАВОК БЕЛАРУШЧЫНЫ*** *Стар. 2.*

***ЗНІКАЮЦЬ ГАЛАСЫ*** *Стар. 3.*

# Даты і падзеі ў студзені

Сёлета спаўняецца 835 гадоў як полацкі майстар Лазар Богша стварыў шэдэўр старажытнабеларускага мастацтва — крыж Ефрасінні Полацкай.

Сёлета спаўняецца 90 гадоў як Марцін Кухта заснаваў (1906) у Вільні друкарню, дзе выдавалася газета «Наша ніва», творы Ф.Багушэвіча, М.Багдановіча, Я.Коласа, Цёткі, К.Буйло і інш.

**11 студзеня** — спаўняецца 150 гадоў Г.Х.Татуру (1846—1907), беларускаму гісторыку, археолагу, калекцыянеру;

60 гадоў з дня нараджэння фальклрыста Антона Гурскага.

**13 студзеня** — 85 гадоў таму нарадзіўся Леў Бараг (1911—1994), фальклярыст, даследнік беларускіх народных казак.

**14 студзеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Рамуальда Траўгута, славутага камандзіра Кобрынскага паўстанцкага атрада ў паўстанні 1863 года.



Сёлета спаўняецца 245 гадоў з часу адкрыцця Нясвіжскай музычнай школы пры Нясвіжскай капэле Радзівілаў.

**15 студзеня** — 75 гадоў з дня выхаду (1921) першага нумара «Сельскай газеты»;

75 гадоў з дня нараджэння Л.В.Аляксеева, вучонага, гісторыка і археолага;

70 гадоў з дня нараджэння П.П.Шубы, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук;

60 гадоў з дня нараджэння Я.Сіпакова, беларускага пісьменніка.

**18 студзеня** — 60 гадоў з дня нараджэння В.С.Сёмухі, беларускага перакладчыка.

**22 студзеня** — 90 гадоў з дня нараджэння А.А.Александровіча (1906—1963), беларускага паэта;

75 гадоў таму ў студзені было заснавана Дзяржаўнае выдавецтва БССР (з 1963 г. — выдавецтва «Беларусь»).

**23 студзеня** — 65 гадоў з дня нараджэння У.А.Жыжэнкі, беларускага крытыка і перакладчыка.

**24 студзеня** — 65 гадоў з дня нараджэння М.І.Мушынскага, беларускага крытыка, літаратуразнаўца, тэкстолага.

**27 студзеня** — 80 гадоў з дня нараджэння У.І.Няфёда, беларускага тэатразнаўца, педагога, пісьменніка;

60 гадоў з дня нараджэння В.А.Куляшовай, беларускага літаратуразнаўца і перакладчыка.

**29 студзеня** — 65 гадоў з дня нараджэння В.М.Шэлег (1931—1965), беларускага мовазнаўца.

**30 студзеня** — 75 гадоў з дня нараджэння І.П.Шамякіна, беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі.

*Але!*

# Знікае нацыянальная каштоўнасць — галасы

Як гучалі галасы і якой мовай гаварылі Скарына ці Багушэвіч? Гэтае пытанне падаецца дзіўным і недарэчным. Але тыя, хто будзе жыць у гэтай краіне праз дзесяткі і сотні гадоў, змогуць пачуць галасы Коласа, Купалы ці нашых сучаснікаў — яны захаваюцца ў запісах. А можа не захаваюцца? Аб гэтым я думаў пасля размовы з супрацоўнікамі Беларускага радыё, першай з якіх была Ніна Чайка — галоўны рэдактар рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм. Вось яе словы:

— Шмат хто думае, што праграмы радыё існуюць толькі той кароткі час, пакуль яны гучаць у эфіры. Але ж гэта не так. Пасля з'яўлення тэхнікі магнітнага запісу перадачы, якія рабіліся на радыё, пачалі запісвацца на стужку і захоўвацца ў спецыяльна створаных фанатэках — фондах радыё.

Як ствараюцца фонды? На радыё ёсць рэдакцыі, якія даюць туды найбольш матэрыялаў: дзіцячыя, музычныя і літаратурна-мастацкія праграм. З 40—50-х гадоў — часу, калі іх праграмы сталі запісвацца і захоўвацца, гэтыя запісы і стварылі фонды радыё.

Але сёння яны ў небяспецы. Першае, што пагражае запісам, — старэнне магнітнай стужкі. З цягам часу з яе абсыпаецца магніт ны слой, а сама стужка робіцца крохкай і непрыдатнай да аднаўлення запісу на магнітафоне. Яна крышыцца ў руках, а тэхналогіі яе аднаўлення не існуе. Ёсць яшчэ адна праблема: новае пакаленне тэхнікі, ужываная на радыё, не можа чытаць запісаў, зробленых на старым. А сярод іх — галасы Купалы і Коласа.

Фонды — не проста маёмасць радыё. Яны — нацыянальная каштоўнасць. Але тое, што з імі адбываецца, сур'ёзна не цікавіць нікога.

Усё, здадзенае ў фонд, не можа быць спісана ці знішчана, бо гэта — наша культурная спадчына і тое, што мы пакінем нашчадкам. Але ж чысткі фондаў адбываюцца рэгулярна. Тое, што ліквідуюцца запісы-копіі, арыгіналы якіх знаходзяцца ў іншых месцах, яшчэ не так істотна. Але сёння адбываецца горшае: з фондаў без следу знікаюць запісы, якія з'яўляюцца надзвычай каштоўнымі. Гэта — цэлы пласт нашай культуры. Сама я даведалася аб гэтым пасля таго, як не змагла адшукаць у фанатэцы патрэбныя мне для перадачы запісы галасоў беларускіх пісьменнікаў. Што знікла і колькі — не ведае ніхто. Але спісаныя ці знішчаныя яны не былі — гэта пэўна.

Чаму так адбываецца? Час, калі ў фондах радыё працавалі работнікі, дасведчаныя ў сваёй справе, даўно мінуў. Каго цяпер прывабіш месячным заробкам у 130 тысяч рублёў? Стужкі, што застаюцца без дogляду, нішчацца, губляюцца, нават раскрадаюцца...

Размову працягнула рэферэнт Міва Фёдараўна Каложка:

— Я пайшла на пенсію адсюль жа, з радыё. Але праз нядоўгі час мне прапанавалі працаваць тут зноў — займацца ўпарадкаваннем фондаў. Я згадзілася.

На радыё я вярнулася год таму. Пачала з перагляду каталога, карткі якога аказаліся бязладна перамешанымі. Расклаўшы іх, я пачала правяраць, ці ёсць у фондах запісы, назвы якіх пазначаны на картках. Аказалася — мноства стужак спісана і знішчана. Засталося іх не больш трох тысяч. Але гэта было не найгоршым. Аднойчы да нас патэлефанавала дачка скульптара Бембеля, якая спытала, ці ёсць у архіве запіс голасу яе бацькі? У каталогу гэты запіс быў, але ў фанатэцы я яго не знайшла. Тады да нас прыйшла сама Бембель, патлумачыўшы, у чым справа...

Аб тым, што адбылося, карэспандэнт «Нашага слова» даведаўся з ліста сп-ні Бембель да намесніка старшыні тэлерадыёкампаніі Беларусі Уладзіміра Ядранцава.

*«Паважаны Уладзімір Паўлавіч!*

*30 кастрычніка 1994 г. на Беларускім радыё прайшла ў эфір перадача, падрыхтаваная Р.Часновай, пра народнага мастака Беларусі А.Бембеля, у якой каля 25 хвілінаў гучаў ягоны голас. Перадача, паводле словаў Р.Часновай, была перададзена ў фонд. Але калі Міністэрства культуры праз галерэю «На ростанях» звярнулася на радыё з просьбай перапісаць перадачу для музея сучаснай беларускай культуры імя Андрэя Бембеля, дык яе ў фондзе не аказалася. Мне давялося пайсці дамоў да Р.Часновай, дзе я з вялікім падзівам убачыла ў чатырох пакоях літаральна тысячы запісаў радыёперадач. На жаль, патрэбнага мне запісу не было, але я памятаю надпісы на скрынках: «Анікейчык», «Рыжанкоў» і іншых дзеячаў беларускай культуры і мастацтва. Праз некалькі месяцаў пасля таго Р.Часнова прапанавала мне купіць у яе стужку з запісам голасу майго бацькі за паўтара мільёна. Іншага выйсця не было, бо ў музеі мусіла быць гэтая стужка. Падчас перадачы стужкі на радыё Р.Часнова была затрыманая міліцыяй.*

*Мяркую, што стужкі, што знаходзяцца дома ў Р.Часновай, ёсць архівам літаратурна-драматычнай рэдакцыі, які знік з радыё, хаця стварайся дзесяцігоддзямі і з'яўляецца нацыянальнай маёмасцю».*

Праўдзівасць гэтых словаў пацвярджае наступны дакумент:

*«Камандзіру 1-га ўзвода*
*2-й роты 3-га батальёна*
*ст. с-ту Вальтэраву*
*Рапарт*

*Паведамляю Вам, што 22.06.95 г. у 13.30 мною і камандзірам аддзялення пр-кам Жылко была затрыманая Часнова Р.П.., якая выносіла магнітную стужку, не маючы дазволу.*

*Пасведчанне № 844 і магнітная стужка забраныя.*

*22.06.95 г.*
*с-нт Кохан*
*пр-к Жылко».*

З часу, калі адбываліся гэтыя падзеі, мінула паўгода. Што змянілася за гэты час? Рэдакцыя літаратурных праграм па-ранейшаму карыстаецца рэшткамі свайго архіва, а мастацтвазнаўца сп-ня Часнова набыла вядомасць хіба што як сябра журы міжнароднага фестывалю «Сялянскі двор». Нікога не турбуе тое, што недзе ў Менску ёсць кватэра, ад падлогі да столі застаўленая шпулямі з запісамі галасоў людзей, многія з якіх ужо не загучаць. Які лёс чакае наш нацыянальны скарб?

Мае разважанні перапыніў голас Мівы Фёдараўны Каложкі:

— Нейкі час таму мне давялося працаваць у архіве аўдыёзапісаў тэлевізіі. У будынку на Макаёнка адбылася аварыя — архіў заліло вадой, і трэба было ўпарадкаваць раскіданыя і пашкоджаныя стужкі. Мноства з іх аказаліся сапсаванымі, але і сярод іх, і сярод тых, што ацалелі, знайшліся такія, што ўвогуле не былі ўключаныя ні ў які каталог. Яны існавалі, але пра іх не ведалі, імі не карысталіся.

Сёння мы захоўваем мноства шпуляў з запісамі прамоваў Леніна, затое стужак з галасамі Янішчыц засталося толькі дзве...

**Уладзімір ПАНАДА.**

*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

# Рамуальд Траўгут: пісьмо з-пад шыбеніцы

Ці ж мы узводзім цвердзі-цытадэлі,
сабрат, сумоўца, слынны суайчыннік?
Сядзім у лёхах па адной прычыне:
яшчэ пятлю
на горла
не уздзелі...
У нашай волі —
цеснае начынне.
А хто памкнецца вырвацца з бярлогу,
скрыжачыць меч,
пасекчы зло навалы, —
аплецены ярэмамі, спляваны,
на вісельню рыхтуецца ў дарогу...
У нашай волі —
парастак апалы.
Прыцiхлі цытадэлі-эшафоты.
І вісельнікі
клічнікамі сталі.
Сабрат!
Сумоўца!
Суайчыннік!
Далі
агучце, каб уведалі народы:
у нашай волі —
цвердзь нязломнай сталі!

*Але!*

# Дапушчана... на сметнік

Калі Аляксандр Рыгоравіч зрабіў замах на дзеючыя школьныя праграмы, я, як і ўсе, горача абурыўся напачатку, але, цвяроза падумаўшы, згадзіўся, што некаторыя падручнікі, адобраныя Міністэрствам адукацыі, сапраўды заслугоўваюць, каб іх утылізавалі.

Летась давялося выкладаць дакладныя навукі. Меўся шырокі выбар падручнікаў па фізіцы, усе — перакладныя. Асабліва здзівіў падручнік для 11-га класа нейкіх Шахмаева і Шодзіева, якія перавярнулі электрадынаміку дагары нагамі, бо элементарна блыталі сінус і косінус, няправільна рашалі задачы. У некаторых падручніках даваліся спасылкі на неіснуючыя малюнкі, графікі падаваліся «лежачы на баку», вучняў адсылалі шукаць «сінія лініі» на графіках, хаця ў кнізе былі толькі жоўтыя. Штораз у тэкстах прапускалася слова «не» (у фізіцы ж гэта азначае спробу «перавярнуць» Сусвет), расказвалася аб навукова-тэхнічных дасягненнях **нашай** Радзімы (чытай СССР), будаўніцтве гіганцкіх ГЭС на **нашых** рэках у Сібіры (мо 'прыватызавалі беларусы'), «нашымі» сталі расійскія вучоныя і да т.п.

Адказы ж у канцы падручнікаў па фізіцы і матэматыцы надрукаваныя нібы спецыяльна дзеля таго, каб заблытаць вучняў і іх настаўнікаў. Пра моўныя «перлы» прамаўчу наогул.

Сёлета маю справу з геаграфіяй. На гэты раз прамаўчу пра навукова-метадычныя вартасці падручнікаў. Яны проста нікуды не вартыя. Узяў дзеля прыкладу тэму «Паўднёва-Заходняя Азія» ў 8-м класе. На нейкіх пяці старонках аўтарскі калектыў з Нацыянальнага інстытута адукацыі ўмудраваўся пераблытаць Усход і Захад, паўстраваы з нізінамі, «паветраныя масы» між сабою, зрабіў галаваломныя «адкрыцці» ў клімаце, ды выклаў усё гэта шматслоўна, алагічна, бессістэмна, непатрэбна.

Што ж да слоўніка, то мяркуйце самі: з двух суседніх параграфаў набралася каля трыццаці яўна небеларускіх слоў і іх формаў, не кажучы ўжо пра сумнеўныя: «састаў тэрыторыі», «зімні» сезон, буйны рагаты «скот», на «склонах» гор, «убывае» «у падножжа» гор, «уступаюць» хмызнякам, «фруктовых садоў», «па характару і рэльефу», аб «адбывайшыхся» працэсах і г.д. Сустрэнеце і «больш усяго» і «не менш 10 м», і «топліўна-энергетычныя рэсурсы», і няўклюдныя «многагаліновыя» дзяржавы і інш., і інш.

Праўда, у вучэбным дапаможніку для 8-га класа ёсць запіс: «Выдаецца ў аўтарскай рэдакцыі», але тут жа — «Дапушчаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь».

Але ж, перш чым запускаць, мо, варта было б усё-такі адрэдагаваць, каб не выкідваць потым на сметнік? Давайце зробім гэта сумленна хаця б у новых, «прэзідэнцкіх» падручніках.

**А.БУБАЛА.**
г.Верхнядзвінск.

# ВЕРУЕМ

## Збліжэнне цэркваў — справа няпростая, але магчымая

Апошнім часам у праграме Беларускага радыё з'явіліся рэлігійныя перадачы. Пасля шмат гадоў ваяўнічага атэізму беларускія вернікі займелі магчымасць свабодна атрымліваць інфармацыю, якая іх цікавіць. У той жа час ужо больш за год, як знікла з эфіру арыгінальная беларуская праваслаўная праграма «Артадоксія». Зацікавіўшыся гэтай тэмай, наш карэспандэнт сустрэўся з прадстаўніцай беларускага праваслаўнага брацтва «Трох віленскіх пакутнікаў» і адной са стваральнікаў перадачы «Orthodoxia» спадарыняй Таццянай Матрунчык.

**— Раскажыце, калі ласка, аб гісторыі паўстання перадачы «Orthodoxia», чыя гэта была ідэя і як яе ўдалося рэалізаваць?**

— Саму ідэю радыёперадачы мы выношвалі даўно, але доўга не было магчымасці яе рэалізаваць. І калі да нас звярнулася з прапановай радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» ў асобе яе кіраўніка Жанны Ліцвіной, то мы ўжо былі падрыхтаванымі да супрацоўніцтва. «БМ» дапамагла нам у арганізацыі перадачы, беручы на сябе тэхнічны бок, кампанаванне, музычныя забаўкі. Адзінае, што ад нас патрабавалася, падрыхтаваць змест перадачы і запісаць яе.

**— Колькі прыкладна выпускаў праграмы выйшла ў эфір?**

— Рэгулярна выйшла каля васьмі перадач, пасля яшчэ тры нерэгулярныя на працягу года, на вялікія святы.

**— Які характар насілі гэтыя праграмы (рэлігійна-асветніцкі, гістарычны)?**

— Мы імкнуліся агарнуць усе гэтыя накірункі, перш за ўсё асветніцкі і інфармацыйны. Было некалькі раздзелаў перадачы. Першы звычайна прысвячаўся праваслаўнаму календару, набліжаючымся святам, у звязку з гэтым гучала казанне святара, нават, калі была магчымасць, мы запісвалі казанне мітрапаліта Філарэта. Па-другое, імкнуліся знаёміць радыёслухачоў з гісторыяй праваслаўя, жыццяпісамі беларускіх святых, бо мы мусім шанаваць нашых святых, як нішто іншае. На гэта мы і звярталі асаблівую ўвагу. Апошнія гады царкоўнае жыццё вельмі актывізавалася, аб гэтым сведчыць нават колькасць парафій, лічба якіх за апошнія 3—4 гады павялічылася ўдвая. Назіраецца актыўнасць не толькі ў богаслужбовым накірунку, але і ў брацкім руху, рабоце з моладдзю, асвеце і міласэрнай дзейнасці, выдавецкай дзейнасці, а інфармацыі аб гэтым практычна няма, альбо яна вельмі няякасная, бо гэтым займаюцца непадрыхтаваныя людзі. Таму мы бралі сабе за мэту падаваць якасную інфармацыю аб праваслаўным жыцці.

**— Выпускі радыёперадачы выходзілі на беларускай мове?**

— Так. Выключна па-беларуску.

**— А ўвогуле як шырока ўжываецца беларуская мова ў дзейнасці вашага брацтва?**

— Мы супольна з біблійнай камісіяй Экзархата працуем над перакладам Святога Пісьма, выдалі па-беларуску службоўнікі і акафісты, у часопісе «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце» публікуюцца матэрыялы тэалагічнага характару. Дарэчы, на днях адбылося пасяджэнне секцыі перакладаў Саюза пісьменнікаў, у якім мы прынялі чынны ўдзел. Разам з секцыяй мы падрыхтавалі да друку богаслужбовыя тэксты і царкоўнаславянска-беларускі слоўнік.

**— Скажыце, калі ласка, які мела ваша праграма рэзананс? Ці былі тэлефанаванні, ці прыходзілі лісты ад слухачоў?**

— Паколькі наша праграма праіснавала практычна паўтара месяца, то хаця мы ўвесь час падавалі адрас і тэлефоны, такіх зваротаў да нас не было, былі толькі водгукі знаёмых. Асобныя людзі казалі, што, ведаючы гадзіну, спецыяльна слухалі перадачу, але гэта маглі рабіць толькі тыя, хто мае шматканальны прыймач.

**— А якімі былі водгукі вашых знаёмых?**

— Што праграма такога роду павінна існаваць. Мне, напрыклад, рэжа слых, калі падзеі царкоўнага жыцця асвятляюцца ў перамежку з падзеямі добра калі яшчэ культурнымі, а то і музычнымі, палітычнымі. Няхай перадача стаіць у шэрагу іншых, але ўсё ж незалежным, аўтаномным блокам.

**— А якая падтрымка вашай перадачы была з боку Экзархата?**

— Па-першае, мітрапаліт сам браў удзел у перадачах, багаслаўляў, калі была неабходнасць звярнуцца да таго ці іншага святара. Па-другое, нам час ад часу давалі з епархіяльнай управы інфармацыйныя звесткі, якія мы выкарыстоўвалі ў сваіх перадачах. Часткова інфармацыю збіралі самі, часткова бралі ў епархіі.

**— Што стала прычынай знікнення перадачы?**

— Толькі закрыццё «Беларускай маладзёжнай».

**— А ці плануеце вы ў будучым аднавіць гэтую праграму? Можа быць, у іншым выглядзе, выкарыстаўшы папярэдні досвед?**

— Так. Напэўна ўжо год таму, мінулай восенню былі сустрэчы ў Экзархаце кіраўніцтва дзяржтэлерадыёкампаніі і царкоўных улад з удзелам тых, хто непасрэдна займаўся падрыхтоўкай перадач на радыё ці тэлебачанні. І планавалася не толькі аднавіць нашу перадачу, а быў складзены цэлы праект супрацоўніцтва паміж Беларускім Экзархатам і дзяржтэлерадыё, але гэтая праграма чамусьці не надта паслядоўна выконваецца. Праўда, некалькі разоў на год па тэлебачанні звяртаўся да беларускай праваслаўнай паствы мітрапаліт Філарэт — на пачатку Каляднага Посту, перад Вялікім Постам, на вялікія святы, на Вялікдзень і Божае Нараджэнне. Што да рэгулярных перадач, якія былі запланаваны, то гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі тыя, хто рыхтуе перадачы, самі з'яўляюцца супрацоўнікамі радыё. Яны супрацоўнічаюць з Іаанам Хамой, з айцом Генадзем Машанскім і айцом Сергіем Гардуном. А такіх перадач, якія рыхтавалі прадстаўнікі брацтваў, людзі ад царквы, якія маюць на гэта багаславенства, не існуе. Наша перадача была адзінай, якую рыхтавалі прадстаўнікі царквы.

**— Зараз па радыё можна часта пачуць перадачы іншых хрысціянскіх канфесій, у прыватнасці, кожную суботу і нядзелю выходзіць каталіцкая праграма «Голас Душы». Якое вашае стаўленне да іх?**

— Я лічу, што для патрэбаў беларускіх каталікоў гэта цудоўная перадача, бо для многіх людзей, якія не могуць наведваць набажэнствы ў касцёле, гэта адзіная магчымасць удзелу ў супольнай малітве. Але не ведаю, што перашкаджае з'яўленню падобнай праваслаўнай праграмы. Магчыма, гэта фінансавае пытанне, магчыма, яшчэ якое. Мы гатовыя хоць зараз выходзіць у эфір, але, відавочна, не ўсё залежыць ад нас.

**— Калі ў вашага брацтва з'явіцца магчымасць стала выходзіць у эфір, як, на вашую думку, ці верагодным было б стварэнне экуменічнай перадачы разам з прадстаўнікамі іншых канфесій? Можа быць такая перадача паўным чынам паспрыяла аб'яднанню нашага народа?**

— Думаю, будзе лепш, калі — праваслаўныя, каталікі ці прадстаўнікі якой-небудзь рэлігійнай меншасці — рыхтавалі б сваю асобную праграму, бо інакш мы можам выклікаць вялікую блытаніну ў слухачоў, якія яшчэ слаба разбіраюцца ў гэтым пытанні і могуць прыняць адно за другое. Хаця людзі адукаваныя і дасведчаныя безумоўна разбяруцца. Асобныя перадачы, прысвечаныя пэўным праблемам, скажам, культурнага супрацоўніцтва, міратворчым акцыям, рыхтаваць разам цалкам магчыма.

Распытваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.

## Цуд у рэдакцыі

На пачатку новага года самы час успомніць, чым уразіў напрыканцы год мінулы. Канешне, усе свядомыя грамадзяне будуць яшчэ доўга памятаць хваляванні — ці дастаткова прыйдзе людзей на выбарчыя ўчасткі, ці многія зразумеюць, што і з Вярхоўнай Радай, нават самай кваліфікаванай, Беларусі не так проста вылезці з эканамічнай багны, куды яе завялі недальнабачныя (ці злонамераныя?) кіраўнікі, а без моцнага заканадаўчага органа краіну немінуча чакае бяда?

Але ёсць успаміны і зусім лакальныя, якія тым не менш пакінулі вялікае ўражанне. Асабіста для мяне, як рэдактара. Такое адбылося тыдні за тры да канца года, калі рыхтаваўся перадапошні, 51-ы нумар газеты, якраз рэдакцыя амаль апусцела — большыня супрацоўнікаў падхапіла грып, а ў раздзеле «Веруем» не хапала матэрыялу. Роўна на 2 машынапісныя старонкі. Што рабіць? Сам я на рэлігійныя тэмы не пішу, а ў запасе нічога такога няма, акрамя.... ліста чытача Уладзіміра Бараніча, бізнесмена, які, па-першае, абвінавачвае нас у прапагандзе праваслаўя і падыгрыванні мітрапаліту Філарэту, у той час як «наша краіна — шматканфесійная па сваім складзе». І ўвогуле не варта «Нашаму слову» — газеце ТБМ «рэлігійная рубрыка». Ну, каб рэлігійнае жыццё не было цесна звязана са словам, то можна б адразу і пагадзіцца з шаноўным чытачом. Тым не менш мільганула думка — а раптам рэдакцыя сапраўды памыляецца і трэба ўзяць і развітацца з рэлігійнай тэмай. Вось зараз жа: зняць астатнія матэрыялы з раздзела «Веруем» і паставіць на гэтае месца якія-небудзь чыста лінгвістычныя артыкул і ўсе праблемы зцікнуць.

У гэты час прыносяць пошту, а ў ёй ліст сп. Андруся Дылюка пра тое, як ён пераканаўся ў існаванні Бога. Але не хапала яшчэ паўстаронкі тэксту, каб запоўніць раздзел цалкам. Зноў рэдактар пачынае думаць: а ці не ліквідаваць яго ўвогуле? І тут заходзіць маладая жанчына, выкладчыца Беларускага мастацкага ліцэя, і просіць надрукаваць нататку яе вучня аб святкаванні ліцэістамі дня Святога Міколы. Я кажу: «А мы ўжо хочам закрыць рубрыку «Веруем». «Не рабіце гэтага! — кажа настаўніца. — У ліцэі яе чытаюць і вучні, і выкладчыкі». Паказваю ліст сп. Бараніча. «Я з ім не згодная, — кажа настаўніца. — Я сама малюся ў касцёле і не бачу, каб газета аддавала перавагу адной якой-небудзь канфесіі».

Я быў вельмі ўражаны тым, што адбылося, і рубрыка «Веруем» засталася.

Мы сапраўды аддаем перавагу. Але аднаму — духоўнай шчырасці і высакароднасці чалавечай ды яшчэ беларускасці, любові да Радзімы.

Тым не меней — няхай самі шаноўныя чытачы вырашаць, ці трэба працягваць рубрыку «Веруем».

Эрнэст ЯЛУГІН.

## Уратуешся вераю

Сярод хрысціянскіх святаў Ражаство Хрыстова — адно з найбольшых. Сур'ёзныя даследчыкі не аспрэчваюць таго гістарычнага факта, што амаль дзве тысячы гадоў таму на зямлі жыў чалавек, якога звалі Ісус. Прафесію Ён меў звычайную — цясляр; і жыў да таго, як прыняў хрышчэнне ад Яна Хрысціцеля, у горадзе Назарэце. А нарадзіўся Ісус у Віфлееме. Дарэчы, Яго нараджэнне, як і ўсё жыццё, і смерць, было прадказана ў шматлікіх прароцтвах задоўга да таго часу, як Ён, Сын Божы, прыйшоў на зямлю.

Нараджэнне Ісуса суправаджалася незвычайнымі з'явамі, якія толькі пацвярджаюць, што Ён — сапраўды Сын Божы. Вось што кажа Святое Евангелле (Лукі 2:8—14): «У той краіне былі на полі пастухі, якія трымалі начную варту ля статку свайго. Раптам стаў перад імі Анёл Гасподні, і слава Госпадава асвятліла іх; і надта спалохаліся. І сказаў ім Анёл: «Не бойцеся; я абвяшчаю вам вялікую радасць, што будзе ўсім людзям: бо цяпер нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсць Хрыстос Госпад. І вось вам знак: вы знойдзеце Немаўлятка ў пялёнках, лежачы ў жолабе». І раптоўна з'явілася з Анёлам шматлікае воінства нябеснае, што славіла Бога і ўсклікала: «Слава ў найвышэйшых Богу, і на зямлі мір, і ў чалавеках дабраволенне».

Нараджэнне Ісуса адчыніла новую эру — час Новага Запавету. Сутнасць Новага Запавету — выратаванне праз веру ў Ісуса Хрыста, праз прынясце Яго Ахвяры ў адкупленне за грахі ўсіх людзей. Святое Пісанне (Дз. А.16:31) кажа: «Веруй у Госпада Ісуса Хрыста, і выратуешся ты і ўвесь дом твой».

У хрысціянстве шмат канфесій: і праваслаўныя, і каталікі, і англікане, і лютэране, і прэсвітарыяне, і баптысты, і метадысты, і менаніты, і пяцідзесятнікі, і уніяты. Але, нягледзячы на адрозненні, ёсць тое, што аб'ядноўвае ўсіх хрысціян, — гэта імя Хрыста. Бо ніхто не можа прыйсці да Бога ніякім іншым шляхам, акрамя як толькі праз Ісуса Хрыста. Хто верыць, што Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю, меў цела, як звычайны чалавек, што Ён памёр за грэшнікаў і ўваскрос для апраўдання тых, хто веруе ў Яго, — той не будзе асуджаны; і калі яшчэ ён жыве на зямлі, ужо запісаны ў Кнізе жыцця.

Андрусь ДЫЛЮК.

## Свята, якое абуджае сумленне...

Кожнае свята — гэта падстава на нейкі час адарвацца ад шэрага будзённага жыцця, прыўнесці ў яго яркія фарбы. Але і падстава прыпыніцца на звыклым шляху, азірнуцца на сваё мінулае, углядзецца ў няпэўную прышласць, можа быць, зажадаць перамяніць сваё жыццё да лепшага, вярнуцца да былых ідэалаў, забытых у побытавых клопатах. І якое свята спрыяе гэтаму лепш, чым Каляды! Яркасць у жыццё прыўносяць ягоныя асвечаныя стагоддзямі традыцыі, прыгожыя народныя абрады... Але за выкананнем гэтых абрадаў ці не забываемся мы часам пра тое, што ёсць прычынай святкаванняў, сутнасцю яго? Тое, пра што ў гэты час спяваецца ў храмах: «Нараджэнне тваё, Хрысце Божа наш, асвяціла людзей святлом богапазнання. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў».

Каб зразумець гэтыя словы, звернемся па тлумачэнні да багаслова Аляксандра Меня. Вось што ён гаворыць пра сутнасць свята Калядаў: «Чаму так хвалюе нас казанне евангелістаў пра Немаўля, што нарадзілася ў бедным хляве? Чаму так непадобнае на іншыя свята Ражаства? Магчыма, прычына крыецца ва ўспамінах дзяцінства, звязаных са снегам, што ціха падае за акном, з пахам свечак і ёлкі, з калядnымі спяваннямі і зорнымі зімовымі начамі? Не, не толькі памяць пра дзяцінства кранае нас у дзень Калядаў, ды многія й не маюць такіх успамінаў. Ёсць у гэтага свята няўміручая рэальная сіла. Свету, паглынутаму цемрай, «зазззяла святло Розуму», і Яго ззянне незгасальнае. Кволае Дзіця робіць выклік царству прымусу і нянавісці, выпрабоўвае сэрцы, абуджае сумленне...

Для Хрыста не знайшлося месца ў доме. Ён нарадзіўся ў хляве.

Але хіба так было толькі падчас перапісу Аўгуста? Хіба не адбываецца гэта штовек?

Колькі душаў спалохана зачыняюць свае дзверы, калі Хрыстос стукае ў іх! Адны баяцца парушыць свой спакой і абмежаваць сябе, іншыя аглушаныя турботамі, а ў іншых даўно згасла прага духоўнасці, агонь даўно не цепліцца ў іх душах. Праўда, ёсць і такія, што не супраць адвесці Богу некаторае месца ў сваім жыцці, але часцей за ўсё гэта месца падобнае на задворкі...

Перад намі іншая карціна. Ваколіцы Батлеема, пастухі, што сядзяць вакол вогнішчаў пад адкрытым небам. Гэта тыя людзі, што не раздумваюць і не вагаюцца. Поўныя даверу да Бога, спяшаюцца яны ў горад, дзе першымі займеюць гонар прыпасці да калыскі Выратаваўцы.

На вуліцах Ерусаліма валхвы шукаюць Цара Юдзі. У іх асобе сустрэць Хрыста ідзе старажытная паганская мудрасць. Валхвы не чулі анёльскіх гімнаў, не бачылі ззяння Славы — толькі загадкавая зорка ўказвала ім мэту. Шлях валхвоў — гэта цярністы шлях чалавечага розуму, шлях тых, што «памнажаюць веды». Але і ён можа прыводзіць да з'яднання з Богам.

І нарэшце, Ірад. Прадстаўнік зямной, чалавечай улады. Ён гатовы нават паверыць, што Нованароджаны — Месія, але гэта не перашкода яго крывавым задумам. І ў кожным стагоддзі ірады, таемна баючыся і адкрыта ненавідзячы, абараняюць сваю ўладу цаной злачынстваў...»

Такім чынам, усвядомім, што кожны з нас вольны выбіраць — ісці яму за Ірадам, за пастухамі ці валхвамі... І хочацца, каб памяць пра сёлетнія Каляды засталася не толькі як памяць пра абрады, але і пра ўласныя духоўныя змены.

Л.Ш.

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## «Вечнае навекі»

*Вяртаецца ў край з навукай, з дабром,*
*братэрства і мір у ім сее.*
*Валодае смела князёўна пяром,*
*людзьмі завалодаць сумее.*

**Ларыса Геніюш**
**«Ефрасіння Полацкая».**

Аўтар «Жыція Ефрасінні Полацкай» стварае дынамічны, праўдзівы вобраз князёўны-ігуменні. Галоўнымі, сутнаснымі якасцямі яе асобы вылучаны жыццёвая актыўнасць, незвычайная працаздольнасць, неўтаймаванасць і руплівасць на абраным шляху самаўдасканалення і настаўніцтва, культурна-рэлігійнага асветніцтва. Вобраз Ефрасінні раскрываецца найперш праз яе дзейнасць — пісанне кніг, навучанне паствы, заснаванне цэркваў і манастыроў, апекаванне імі, гуртаванне сваіх нястомных памочнікаў-аднадумцаў.

Пра жыццёвыя каштоўнасці ігуменні сказана вельмі сцісла і выразна, словамі самой Ефрасінні, звернутымі да Бога: *«...за все имѣние* [набыткі] *имѣю книги сея. Ими же утѣшается... душа и сердце веселится».* Больш падрабязна распавядаецца пра настаўленні ігуменні, падкрэсліваецца іх змястоўнасць і рознабаковасць: *«...старыя же учаше трьпѣнию* [трыванню] *и воздръжанию* [устрыманню], *юныя же учаше чистотѣ душевней и бестрастию телесному, говѣнию образному, ступанию кротку, гласу смирену, слову благочестну, ядению и питию безмолвну, при старѣйших молчати, мудрѣйших послушати, ко стрѣйшим покрѣнием, к точным* [да рохных] *и меншим любовь без лицѣмериа, мало вѣщати* [гаварыць] *а много разумѣти».*

Пры гэтым аўтар не абмяжоўваецца пераказам падзей і апісаннем, а звяртаецца да сферы душэўных і духоўных праяў, паказваючы, як сталела і ўзмацнялася вера і чалавечая моц Ефрасінні, як упэўненым словам і разважлівым дзеяннем яна пераконвала ў сваёй праваце; выклікаючы павагу і любоў людзей, набыла вялікі аўтарытэт дзяржаўнага і сусветнага ўзроўню.

Вобразна, маляўніча, рэалістычна адлюстраваць у творы асобу Ефрасінні аўтару дапамагае **параўнанне**. Гэты стылістычны прыём выкарыстоўваецца для апісання ці акрэслення пэўных рэалій праз іх супастаўленне (паводле знешняй ці ўнутранай прыкметы) з іншымі. Параўнанне, па асаблівасцях вобразнага пераносу, падобнае да метафары, аднак мае адметнасць: называе абедзве суаднесеныя рэаліі ды падкрэслівае прыкмету параўнання. Параўнанні шырока выкарыстоўваюцца ў фальклоры: *Адзін, як месячык у небе; Аж мароз пайшоў па скуры; Баяцца, як агню (як смерці, як чорт крыжа, як чорт ладана); Белы, як лебедзь (як палатно, як папера); Біцца, як рыба аб лёд; Вочы, як пралескі.* У мове шмат параўнальных (кампаратыўных) фразеалагізмаў: *'мала' — як кот наплакаў, як бабе сесці; 'многа' — як бобу, як грыбоў; 'хутка' — як адзін момант; як на драждждах; як на пажар; як куля; як птушка; як маланка; як страла; як вецер; як віхор.*

Параўнанне шырока выкарыстоўваецца ў тэкстах рэлігійнай тэматыкі, складае традыцыю рэлігійнага прапаведніцтва. Да традыцыйных, звязаных з біблейскімі сюжэтамі, належыць параўнанне паствы з авечкамі, а рэлігійных настаўнікаў з пастухамі (адсюль, дарэчы, і назвы **паства, пастыр**); прапаведніцтва супастаўляюць з працай земляроба, а вынікі навучання — з урадлівай нівай, рупную працу — з працай пчалы...

Такія параўнанні надаюць выказванню ўзвышанасць і строгасць. Яны надзвычай характэрныя для «Жыція...»: *«...**яко добрый храбор*** [ваяр], *вооружившися на супротивника своего, диавола...; ...собирающи благыя* [добрыя] *мысли в сердци своем, **яко пчела сот»***. Некалькі разгорнутых параўнанняў выкарыстаны пры ўсхваленні Ефрасінні (у словах анёла): *«...**яко міро добровонно*** [міра духмянае], *молитва ея восходит к Богу. **Яко венець на главѣ церквѣ**, тако почивает дух святый на ней. **Яко солнце сиает по всей землі**, тако и житие ея **сиает** пред ангелы божиими».*

Шмат індывідуалізаваных, створаных у кніжных культурных традыцыях, параўнанняў уключана ў выказванні-прамовы Ефрасінні. Для разнастаення, вобразнага падкрэслення, удакладнення і ўзбагачэння маўлення ўжываюцца і парныя параўнанні: *«Слава их погыбе* [згіне] ***яко прах и хужьши паўчины*** [павуціны]; *слава есть прах и пепел, и **яко дым разыйдется, яко пара водная погыбает**; слово твое, **яко дар многоцѣнный»***.

Пераважна ўсе параўнанні належаць Ефрасінні ці характарызуюць яе. Напрыклад, традыцыйнае для прапаведніцтва параўнанне перадае поспехі ў навучанні ігуменняй сваёй сястры: *«Еўфросиния же со прилѣжанием учаше о спасени души, а она с прилѣжанием учашесь и приимаше* [вучылася і ўспрымала], ***яко нива плодовита...»*** Словамі самой Ефрасінні і словамі аўтара адлюстроўваецца атмасфера навучання, дабрыня і прыязнасць настаўніцы: *«Се собрах вы* [сабрала вас], ***яко кокошь*** [квактуха] ***птенца под крылѣ свои**, и в паствину свою, **яко овца**. Да пасетеся в заповедѣх Божиих!; ...радовашеся..., **яко своему спасению**; утѣшаше благым своім смыслом, **яко мати, дѣти своя любящи»***.

Праз параўнанне падаецца і стаўленне ігуменні да грамадскіх праблем — узаемаадносін людзей усіх сацыяльных слаёў і рангаў, якіх Ефрасіння ***«Хотяше имѣти, яко едину душю»***, і мела тым значны аўтарытэт як палітык і міратворца.

Глыбокая павага, захапленне, пакланенне заключаны ў параўнаннях-выказніках, выкарыстаных як эмацыянальны рытарычны воклічу заключных радках «Жыція»..., напісаных у жанры ўсхвалення. Надзвычай лепш прыдатныя яны на заключэнне і нашай гаворкі: *«Еуфросиниа неувѣдающий цвѣт райскага сада. Еуфросиниа — небопарный орел, попаривши от Запада да Востока, яко луча солнечьнаа, просвѣтивши всю землю Полацкую».*

# Пра напісанне назваў вышэйшых службовых асоб і дзяржаўных органаў

Знаёмства з перыядычным друкам сведчыць, што ў напісаннях назваў розных дзяржаўных органаў і вышэйшых службовых асоб існуе значны разнабой. Так, газета «Рэспубліка» рэгулярна піша вялікую літару толькі ў першым слове назвы «Кабинет министров», «Звязда» ўжывае вялікую літару ў абодвух словах — «Кабінет Міністраў». Правілы ж напісання вялікай літары ў абедзвюх мовах тоесныя, невялікая розніца толькі ў фармулёўках. У «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959, с. 63) фармулёўка наступная: «У назвах вышэйшых партыйных, урадавых, прафсаюзных устаноў і арганізацый Савецкага Саюза і саюзных рэспублік.., а таксама аўтаномных рэспублік з вялікай літары пішуцца ўсе словы, якія ўваходзяць у склад назвы, апрача службовых слоў і слова партыя». Відавочна, што тут дакладна выражана проціпастаўленне вышэйшых органаў Савецкага Саюза і такіх жа органаў усіх астатніх краін свету. З гэтага проціпастаўлення вынікае, што назвы вышэйшых органаў і арганізацый іншых краін павінны пісацца з малой літары.

Але зараз няма ні Савецкага Саюза, ні саюзных рэспублік, з'явіліся такія назвы, якія раней існавалі толькі ў «далёкім замежжы». Узнікае пытанне: як іх пісаць? Самы аўтарытэтны даведнік Д.Э.Разенталя па рускай мове «Прописная или строчная? Словарь-справочник» (М., 1989) рэкамендуе пісаць у памянутай назве абодва словы з малой літары: кабинет министров (с. 127). У гэтым выпадку рэкамендацыі даведніка не прытрымліваецца ніхто, у іншых прытрымліваюцца.

Размежаванне ў напісанні такіх назваў праводзілася вельмі паслядоўна, бо яму надавалася важнае ідэалагічнае значэнне. Ідэалагічную накіраванасць правіл правапісу вялікай літары найбольш выразна можна паказаць на прыкладзе напісання назваў вышэйшых пасад і ганаровых званняў СССР. У афіцыйных «Правилах русской орфографии и пунктуации» (выд. другое, стэрэатыпнае, М., 1962, с. 54) чытаем: «Наименования высших должностей и почетных званий в СССР — Председатель Президиума Верховного Совета, Председатель Совета Министров СССР, Герой Социалистического Труда, Герой Советского Союза, Маршал Советского Союза — пишутся с прописных букв», а на с. 62 адносна астатніх назваў гэтага тыпу дадзена наступнае «правіла»: «В текстах официальных сообщений и документов написание наименований должностей, званий, установлений и т.п. с прописной или строчной буквы определяется специальными ведомственными инструкциями». Цяжка нават уявіць, як падобнымі ведамаснымі інструкцыямі маглі карыстацца міжнародныя арганізацыі. З-за падобных правілаў наўрад ці можна было спадзявацца на шырокую распаўсюджанасць пісьмовай рускай мовы як інструмента міжнародных зносін.

У «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» адносна ведамасных інструкцый не гаворыцца нічога. Відаць, яны былі толькі агульнасаюзнымі, і распрацоўшчыкі беларускай арфаграфіі іх не ведалі.

Мяркуючы па даведніку, Д.Э.Разенталь ведаў гэтыя інструкцыі, таму ім карысталіся і працягваюць карыстацца і работнікі друку Беларусі. На с.239 знаходзім: президент: президент Индии, президент Мексики...; но в официальных документах, сообщениях о встречах на высшем уровне: Президент Индии, Президент Мексики...» Шматкроп'е азначае, што спіс можна працягваць, у прыватнасці, і за кошт назвы «прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», хоць такое напісанне і стала супярэчыць духу агульнага правіла рускай арфаграфіі.

На аснове афіцыйных правілаў арфаграфіі і даведнікаў любы разнабой у напісанні можна апраўдаць. Таму «Рэспубліка» піша «Кабинет министров», «Звязда» дае падзаголовак: «Выступленне прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 5-й гадавіне Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь». І усім няясна, ці з'яўляецца афіцыйным дакументам выступленне на ўрачыстым пасяджэнні. А можа ў Беларусі М.Чыгір займае не адну з вышэйшых пасад? Ці і ў нас з'явіліся ведамасныя інструкцыі адносна напісання вялікай літары ў назвах пасад, званняў і ўстанаўленняў? «Народная газета» ў процілегласць «Звяздзе» нават «міністр» піша з вялікай літары. Улічваючы існуючы разнабой у перыядычным друку, варта ўсумніцца ў існаванні падобных патаемных інструкцый.

Якое ж выйсце з гэтага становішча? Як пазбегнуць разнабою ва ўмовах існавання правіл правапісу, якія перасталі адлюстроўваць рэальную практыку? Ясна, што правілы правапісу трэба тэрмінова абнавіць. Гэта і прапанавала Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы, створаная былым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Але ўжо каля года з боку Кабінета Міністраў на выніковы дакумент памянутай камісіі ніякай рэакцыі няма. Гэта азначае, што новае выданне правапісу ў бліжэйшыя месяцы не з'явіцца. Разнабой жа ў напісанні трэба было б спыніць неадкладна.

Таму здаецца, што зараз усе выдавецтвы, а таксама і самі дзяржаўныя органы павінны выкарыстоўваць напісанні, якія сустракаюцца ў тэксце Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Вось кароткі пералік назваў, якія сустракаюцца ў тэксце Канстытуцыі:

*Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны герб, Дзяржаўны гімн, Дзяржаўны сцяг, Закон аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, мясцовы Савет дэпутатаў, мясцовыя Саветы дэпутатаў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Праграма дзейнасці Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Прысяга Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь, Рэгламент Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь, Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, спецыяльная камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; Старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, Старшыня Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.*

Што да напісанняў на рускай мове, то тут таксама варта захоўваць правапіс Канстытуцыі, бо апублікаваныя выдавецтвам «Полымя» ў 1994 годзе на беларускай і рускай мовах тэксты Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца афіцыйнымі, хоць у рускім тэксце можна знайсці адхіленні ад правілаў рускага правапісу, які дзейнічае зараз. Паколькі руская мова прымаецца ў нас у якасці другой дзяржаўнай мовы, разыходжанні з рускай мовай у Расіі (і не толькі ў напісаннях) непазбежныя. Пра гэта сведчыць гісторыя пісьмовай старажытнарускай мовы Кіеўскай Русі, англійскай мовы ў Вялікабрытаніі і Злучаных Штатах Амерыкі і г.д.

**Акадэмік А.І.ПАДЛУЖНЫ.**

Беларусы-філолагі

# АЎТАР «БЕЛАРУСАЎ»

Яўхім Фёдаравіч Карскі — даследнік славянскіх моваў, заснавальнік беларускага мовазнаўства, нарадзіўся ў вёсцы Лаша каля Гародні 1 студзеня 1861 года. Ён — аўтар блізу 300 навуковых артыкулаў, у якіх даследуюцца нашыя мова, фальклор, рукапісныя і друкаваныя літаратурныя помнікі.

Асноўны ягоны даробак — грунтоўная трохтомная праца «Беларусы». Гэтая энцыклапедыя беларушчыны магла з'явіцца ў выніку сістэматычных пошукаў у бібліятэках і архівах ды рэгулярных, спланаваных вандраванняў уздоўж вонкавых межаў беларускіх дыялектаў. Прыкладам, Я.Карскі даследаваў і перавыдаў ліст хана Залатой Арды Тахтамыша польскаму каралю Ягайлу, напісаны ў 1392 ці 1393 гадах на старой беларускай мове, — і цяпер мы маем яшчэ адзін доказ, што ў XIV стагоддзі наша мова выкарыстоўвалася суседнімі дзяржавамі дзеля дыпламатычнай перапіскі. У 1895 годзе Я.Карскі спецыяльна вывучаў славуты Супрасльскі рукапіс — помнік стараславянскай мовы XI ст., у якім адлюстраваны і асобныя рысы нашай мовы. У сваёй навуковай дзейнасці наогул прафесар Карскі шмат увагі аддаў вывучэнню старадаўніх тэкстаў, напісаных кірыліцай. Пачаткам гэткіх палеаграфічных прац можна лічыць ягоны артыкул «Да пытання пра распрацоўку старога заходнерускага дыялекта», надрукаваны ў Вільні. Цягам часу быў выданы «Нарыс славянскай кірылаўскай палеаграфіі» (упершыню — у 1901 годзе, і перавыданні 1913, 1915 і 1928 гадоў), за які Я.Карскаму была прысуджаная малая Ламаносаўская прэмія.

Неацэнныя навуковыя звесткі сабраў даследнік у дыялекталагічных вандроўках. Прыкладам, у Сакольскім павеце Гарадзенскай губерні (цяпер тэрыторыя Польшчы) ён занатаваў некалькі рэдкіх асаблівасцяў гаворкі беларусаў з вёскі Жукі, у тым ліку і сэканне: **прасіўса, напіўса, даласа; прасіласо.** Падобныя навуковыя факты далі магчымасць Я.Карскаму скласці «Этнаграфічную карту беларускага племя».

Не ўсё задуманае здзейсніў наш славуты навуковец. Заўчасная смерць 29 красавіка 1931 года застала акадэміка Я.Ф.Карскага пры працы над складаннем картатэкі параўнальнага слоўніка ўсіх славянскіх моваў.

**З.С.**

*Беларускае адраджэнне*

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Гістарычны крытэрый ужывальнасці слова

Складаны гістарычны лёс выпаў беларускай літаратурнай мове. Напачатку — гэта дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага з шырока разгалінаванай функцыянальна-стылёвай сістэмай, затым, у выніку палітыкі паланізацыі больш як на стагоддзе, — выключэнне яе са сферы паўнапраўнага дзяржаўна-грамадскага карыстання і, нарэшце, адраджэнне яе ў новым пісьмова-літаратурным варыянце падзвіжніцтвам культурных дзеячаў XIX—XX стагоддзяў. Невыпадкова таму для беларускай мовы пазнейшага часу так востра заўсёды паўставала праблема аднаўлення пераемнасці паміж старажытнай і новай моўна-кніжнымі традыцыямі. Бо, як сведчыць моўны вопыт, сапраўднае адчуванне нацыянальнага слова яго носьбітамі магчыма толькі з улікам усяго гістарычнага функцыянавання мовы.

Засваенне багаццяў старажытнай мовы, да якога звярталіся ў сваёй творчай практыцы Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Алесь Гарун, пазней Максім Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка, Кузьма Чорны, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч (а сённяшняя літаратурная моладзь асабліва), павінна ісці поруч з інтэнсіўным лінгвістычным даследаваннем гэтай праблемы.

Увогуле, моватворчая практыка пісьменнікаў, асабліва літаратурнай моладзі, павінна вывярацца лінгвістычнымі даследаваннямі, і мовазнаўца тут можа стаць сапраўдным праваднікам у свет гістарычнага жыцця слова.

І беларускай лінгвістыкай у гэтым напрамку зроблена нямала. Пачынаючы з гістарычнага слоўніка беларускай мовы І.І.Насовіча пад назвай «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі», нашыя мовазнаўцы працягваюць даследаваць і выдаваць гістарычную моўную спадчыну. Намаганнямі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа ўжо падрыхтавана звыш 10 выпускаў «Гістарычнага слоўніка». Вынікам шматгадовай карпатлівай працы аўтарскага калектыву на чале з У.В.Анічэнкам з'явілася унікальнае выданне — «Слоўнік мовы Скарыны» (1-ы т. — 1977 г., 2-гі т. — 1984 г.).

Трэба адзначыць, што ў апошнія дзесяцігоддзі выпрацоўваецца ўдакладненая лінгвістычная канцэпцыя ў поглядах на гісторыю мовы як сінтэтычную, якая спалучае ў сабе як народна-дыялектычную гісторыю мовы, так і гісторыю літаратурнай мовы.

Так склалася, што пры вывучэнні сучаснага стану літаратурнай мовы часцей за ўсё выкарыстоўваецца сінхранічны (апісальна-геаграфічны) крытэрый, пры даследаванні ж гістарычнай дынамікі слова на першы план выходзіць крытэрый дыяхранічны (гістарычны). Аднак пры стварэнні сінтэтычнай гісторыі беларускай мовы задача спалучэння сінхранічнага і дыяхранічнага прынцыпаў ускладняецца меншай ступенню распрацаванасці апошняга. Праблема заключаецца яшчэ і ў тым, што выкарыстанне гістарычнага крытэрыя не ідэнтычна прымяненню геаграфічна-апісальнага.

Як жа практычна карыстацца гістарычным прынцыпам? Лічыць ужывальнымі ўсе словы, якія зафіксаваны ў старажытных пісьмовых і лексікаграфічных помніках? Тады чаму шматлікія старыя словы выпалі са сферы шырокага карыстання, склалі, па меншай меры, пласт пасіўнай лексікі ў сучаснай літаратурнай мове. Мы разумеем, што для беларускай мовы, якая дайшла да нас у пэўным сэнсе двума рознанакіраванымі шляхамі развіцця, — з архаічным складам лексікі справа няпростая.

Сённяшняя моўная сітуацыя ў рэспубліцы, як паказваюць спрэчкі ў друку, ставіць на парадак дня пытанне аб узбагачэнні мовы сучаснай за кошт старабеларускай з яе высокай культурай функцыянальных стыляў, дасканалай (па тым часе) адцягненай і тэрміналагічнай лексікай, багаццем сінтагматычных (сувязь унутраная) і парадыгматычных (сувязь знешняя слоў у сказе) адносін паміж словамі ў моўнай сістэме.

Праблема выкарыстання гістарычнага крытэрыя ў дадзеным выпадку ўскладняецца працэсамі развіцця мовы, пераходам значнай часткі слоў з цягам часу ў пасіўны запас, увядзеннем шырокага кола новай лексікі.

Зразумела, тымі словамі, што абазначаюць паняцці, якія выйшлі з ужытку, мова ўзбагачацца не будзе. Іншая рэч — словы з доўгай гісторыяй бытавання ў мове, якія абазначаюць існуючыя і ў іншы час паняцці. Як паказваюць навейшыя даследаванні, гэты матэрыял тоіць у сабе патэнцыяльныя магчымасці для ўзбагачэння сінанімікі, антанімікі і іншых вобразна-выяўленчых сродкаў мовы.

Паводле этымалагічных назіранняў, каранёвая сістэма ў працэсе эвалюцыі той ці іншай мовы пераважна захоўваецца, відазмяняецца галоўным чынам у словаўтваральна-марфемным складзе.

Працэс выпадзення слоў у архаізмы ці магчымасць далейшага функцыянавання іх у мове галоўным чынам кантралюецца сістэмай словаўтварэння. Параўноўваючы тыя ці іншыя лексемы старажытнай мовы, мы заўважаем, што адпаведныя словы пачынаюць выпадаць з ужывання таму, што іх марфемна-словаўтваральны склад і сінтаксічныя мадэлі перастаюць быць прадуктыўнымі. Напрыклад, да разраду непрадуктыўных сталі адносіцца наступныя мадэлі:

— дзеепрыслоўі на **-чи** *(просечи, чтучи, говорячи);*

— інфінітывы на **-ти** *(имати, гутарити);*

— дзеясловы трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу з канчаткам **-ет** *(иржавяет, заробляет);*

— дапаўненні ў вінавальным склоне з прыназоўнікам **«над»** пры форме вышэйшай ступені прыметніка ў функцыі выказніка *(што сладшего надъ мед; что сильнейшего надъ льва; над сребролюбца нетъ горшего).*

Прадуктыўна ўстойлівымі аказаліся такія мадэлі:

— флексійныя формы на — **ого (-его, -ому) - ему** ў прыналежных прыметніках мужчынскага роду адзіночнага ліку *(братового, братовому);*

— канчатак **-ым (-ім)** у месным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і неасабовых займеннікаў мужчынскага і ніякага роду *(у новым, у тым);*

— поўныя прыметнікі ў функцыі выказніка *(быў хворы);*

— канструкцыі з выказнікам, выражаным творным склонам назоўніка або прыметніка *(быў яму слугою, буду табе верным);*

— своеасаблівае дзеяслоўнае кіраванне іменем пры дапамозе прыназоўніка і без прыназоўнікаў *(пайшоў да дому)* і г.д.

Пры адгаліненні беларускай мовы з агульнаславянскага кораня, як вядома, змянілася артыкуляцыйная база мовы, яе фанетыка-фаналагічная, акцэнтна-прасадычная сістэма, у выніку чаго адбыліся зрухі і ў марфалагічнай структуры. Мова эвалюцыяніруе як цэласная сістэма, усімі ярусамі ўнутранай структуры, удасканальваючы сваю марфемную абалонку, таму словаўтваральныя формы, якія сталі непрадуктыўнымі ў беларускай мове, аказаліся прадуктыўнымі ў расійскай ці ўкраінскай.

Такім чынам, праблема гістарычнага крытэрыя практычна звязана з прадуктыўнасцю словаўтваральных мадэляў. І ўзбагачэнне сучаснай беларускай мовы праз выкарыстанне жыццяздатных элементаў старабеларускай мовы павінна адбывацца з улікам таго, з'яўляецца прадуктыўнай ці непрадуктыўнай пэўная словаўтваральная мадэль. У цэлым жа гістарычны крытэрый вельмі неабходны, без яго апісальна-геаграфічны метад будзе заставацца заўсёды недастаткова абгрунтаваным, няпоўным.

*Уражанні*

# «Гэта крык, што жыве Беларусь»

Усе мы зараз з'яўляемся сведкамі нахабнага прыніжэння беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Пасля ганебнага рэферэндуму, які «ўраўняў» правы расійскай і беларускай моў, наша родная мова зноў стала жабрачкаю, падчаркаю ў расійскай мовы. Дзе нам, беларусам, зараз можна пачуць роднае слова, калі нават беларускі тэлевізійны канал «акупавала» мова-суседка? Ды і хто, скажыце, будзе паважаць нашы нацыянальныя святыні, нашу гаворку, калі мы самыя яе не паважаем? Мы — беларусы, якім адкрылі вочы, далі зрок і свядомасць за 5 гадоў нашага нацыянальнага адраджэння, павінны душыць у сабе жывое дзіця беларускасці, нацыянальнага духу? Або мы павінны крычаць і сцякаць крывёю? За што карае нас Бог? Чаму роднае наша слова, якое толькі-толькі дало дружныя ўсходы, павінна быць знішчана, затаптана, аплявана? Няўжо перамогуць зло, несправядлівасць і подласць, як гэта было ўжо не раз? Колькі іх, пакрыўджаных беларусаў-інтэлігентаў, на якіх наляпілі таўро маўчання і якія да сівых гадоў нясуць гэты пакутны крыж? Яны вешчуны, яны прарокі, яны святыя мучанікі, якія пакутавалі шмат за свой край!

У 1993 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет зборнік вершаў нашага слонімскага паэта Васіля Супруна «Крык». Гэта той голас, які захліпаецца ў душах шмат каго з нас. Толькі даносіцца ён з далёкіх пяцідзесятых, са сталінскіх лагераў, з-за калючага дроту Варкуты і Інты. Невялічкая кніжка паэзіі сцвярджае і славіць веліч чалавечага духу, светлую любоў да Бацькаўшчыны і вернасць нацыянальным святыням. У далёкім 1947 годзе, калі Васілю Супруну споўніўся 21 год і ён працаваў дырэктарам школы, юнака арыштавалі і прыгаварылі да 25 год зняволення (адсядзеў 9 гадоў). Ды арышт пёк душу і выклікаў справядлівы пратэст супраць беззаконня. Паэт напіша:

*Ці ж вінаваты я ў тым, што радзіўся*
*сынам крывіцкай зямлі,*
*што перад гвалтам чужым*
*не хіліўся,*
*ганьбу на край свой не ліў?*

Малады і высакародны, велічны і бяздольны, ён разумеў, што жыццё маладое ідзе па краёчку магіл, што плаціць ён спаўна «за любоў да свайго здратаванага краю». І там, у бараках Інты, крывавы месяц здаваўся «сярпом смерці над галавой». Ды, відаць, Беларусь не кідае сваіх верных сыноў, дае ім сілы змагацца і выстаяць:

*О, Беларусь!*
*На чужыне далёкай,*
*калі задыхаўся я ў шахтах Інты,*
*калі ў паняверцы гібеў адзінока, —*
*цяплом і надзеяю цешыла Ты.*

**(«О, Беларусь»)**

Так, любоў да Бацькаўшчыны — гэта наша цяпло і надзея душэўная. Нішто не пераможа любоў, нішто. Яна ў нас святая, адзіная. Мову ж нашу, пакрыўджаную і занядбаную, мы любім яшчэ больш, шчыра. Але паслухаем паэта:

*Мова і тая, як наймічка хілая,*
*выжыта з хаты на прызбу вясковую.*
*Спадчыну ж нашу прысвоілі сілаю*
*суддзі-суседзі ў гадзіну суровую.*

**(«Горкая праўда»)**

Можна зразумець Васіля Супруна, чаму першы раздзел яго кнігі мае назву «Боль». Гэты святы боль напаўняе і нашы сэрцы. Ды адно ўратаванне, яно — ад Бога. Вось чаму малітвай гучаць радкі:

*Дай нам магутнасць, адзінства і сілы,*
*каб адрадзіць і падняць Беларусь,*
*што зацкаванай над самай магілай*
*моўчкі стаіць, б'е паклоны камусь.*

**(«Благанне»)**

Па свайму духу паэзія В.Супруна блізкая творам М.Багдановіча, аб гэтым сведчаць назвы вершаў «Санет», «Трыялет», «Пагоня». Здаецца, мы чуем прарочыя словы Максіма, што край наш прачнецца, «рынецца» ўперад, як крыніца, каб вымыць чужы бруд з нашых душ, ачысціць іх і зрабіць узвышанымі і любячымі. І гэта дапамагае адчуць «Пагоня» В.Супруна:

*Ад звону мячоў і каваных падковаў*
*Праклятая цемра бляднее, дрыжыць,*
*І родная мова, бацькоўскае слова*
*Праз сметнік чужы прарастае,*
*каб жыць.*

**(«Пагоня»)**

Сімвалічна ўспрымаюцца назвы другога і трэцяга раздзелаў кнігі В.Супруна — «Надзея» і «Доля». Тут лірычны герой паэта — мудры і шчыры дарадца, страсны прамоўца і ўсхваляваны закаханы. Як зразумелы нам сэнс наступных радкоў:

*Камусь патрэбна, каб нашы дзеці*
*Не зналі роду свайго і мовы*
*І каб лічылі, што ў цэлым свеце*
*Гучыць найгоршым іх маці слова.*

**(«Мы помніць мусім»)**

Але паэт папярэджвае нас аб тым, што, адмаўляючыся ад сваёй мовы, беларусы перакрэсліваюць сваю гісторыю, спадчыну, робяць сябе людзьмі без памяці, без вечнасці, без традыцый і святых законаў продкаў.

*Наша гісторыя —*
*сметнік загадак,*
*Дбайна прысыпаны пылам*
*хлуслівасці.*

**(«Горкая праўда»)**

Бадай, адзіным камертонам, якім вымяраецца праўда жыцця, з'яўляецца душа паэта. А яна здольна не толькі гнеўна пратэставаць і сумаваць, яна ўмее так прыгожа кахаць:

*Зоранька любая,*
*шчасце адзінае,*
*радасць, надзея, жаданне і лёс,*
*шчырасць і вера мае лебядзіныя,*
*знай,*
*што кахаю да слёз.*

**(«Мроя»)**

З чым можна параўнаць паэтычнае слова? Паэзія В.Супруна нагадвае ўдар перуна, магутны рык зубра. Ён моцны сваёй перакананасцю ў той справе, якой самаахвярна служыць усё жыццё. Гэтая справа — беларушчына. Яна выбірае самых лепшых, таленавітых, верных і стойкіх. Такая яна, Беларусь; каля сябе трымае самых адданых і любячых.

*...каранямі асілкі трымаюцца,*
*сокі з зямелькі бяруць.*
*Тыя ж, што глебы і роду цураюцца*
*з собскай пагарды памруць.*

**(«Дуб і ручай»)**

Зборнік Васіля Супруна «Крык» дапамог мне адказаць на многія пытанні сучаснасці. Адно бясспрэчна — як нельга пахаваць душу чалавека, так нельга знішчыць і яго мову — «адзенне гэтай душы».

**Тацця̀на ТРАФІМЧЫК-ДУНАЙ,**
**настаўніца школы № 10 г.Слоніма,**
**старшыня гарадскога Таварыства**
**беларускай мовы.**

# Набыткі мовазнаўцаў

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа складаецца чарговая акадэмічная справаздача. Яна сведчыць, што, нягледзячы на цяжкія фінансавыя варункі, інстытут працягвае плённа працаваць. Так, сёлета завершана праца над грунтоўным «Політэхнічным руска-беларускім слоўнікам» аб'ёмам 135 аўтарскіх аркушаў. Здадзены ў выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» аднатомнік «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Ягоны аб'ём — 175 аўтарскіх аркушаў. Выданне гэтага слоўніка важнае, — бо ён адначасова і досыць грунтоўны, і больш даступны па кошце чытачу, чымся шматтомнае дарагое выданне. Рыхтуецца чарговы, 3-ці, том «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», том «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласу». Завяршаецца і яшчэ адна навуковая тэма — праца па складанні «Слоўніка мовы «Нашай нівы». Сярод набыткаў навукоўцаў — даследаванне «Параўнальная фанетыка ўсходнеславянскіх моў». Падрыхтаваны 14-ы выпуск (14-я кніга) «Гістарычнага слоўніка».

На жаль, з прычыны фінансавых цяжкасцяў прыпынена выданне этымалагічнага слоўніка. Але рыхтуецца аднатомны этымалагічны слоўнік, які будзе разлічаны не толькі на спецыялістаў, але і на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй нашай мовы. Аддзел беларуска-расійскіх моўных сувязяў сёлета мае на сваім рахунку цыкл працаў, прысвечаных параўнанню беларускай і расійскай моў. Завяршаецца таксама праца над акадэмічнай граматыкай беларускай мовы. Выданне надзвычай патрэбнае: папярэднія граматыкі, што выйшлі ў 1962 і 1985 гадах, мелі невялікія наклады і не могуць задаволіць чытацкага попыту. Галоўная цяжкасць для інстытута — недастатковае фінансаванне. Працы, і цікавыя, і патрэбныя, робяцца, але як давесці іх да зацікаўленага чытача, калі, напрыклад, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» за выданне аднаго лексічнага атласу патрабуе 700 мільёнаў рублёў? Гэтая лічба суадносная з агульным бюджэтам інстытута...

Тым не менш, мовазнаўцы працуюць, прыходзяць новыя маладыя спецыялісты... Пра асноўныя навуковыя тэмы інстытута, працу над цікавымі выданнямі «Наша слова» будзе падрабязней расказваць чытачам на старонках сваіх наступных нумароў.

**Н.К.**

